# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 33 (243) 20 — 26 жніўня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ





Майстэрня Антона Аўгуставіча Мацкевіча напоўнена аскомістым водарам стружкі, змяшаным з пахам клею, лаку і яшчэ чагосьці, — так звычайна пахне ў сталярнай майстэрні. Глядзіш на моцнага, каржакаватага майстра і адчуваеш, што нібыта і сам ён уцягнуў у сябе гэтыя пахі, што надало яму моц і сілу, і час яго не бярэ. У свае семдзесят пяць Антон Аўгуставіч рухавы, энергічны, без работы не сядзіць ні хвіліны. І няма такога вырабу з дрэва, якога не змог бы змайстраваць Антон Аўгуставіч. Шалёўка, фрызы, мэбля ад "рэтра" да сучаснага стылю. А таму ведаюць пра яго майстэрства не толькі ў роднай вёсцы Дворчын, што на Браслаўшчыне, але і ў наваколлі. За любы заказ бярэцца майстар, нікому не адмаўляе.

Але ёсць у Антона Мацкевіча асаблівы "аб'ект", дзе яго талент і любоў да абранай справы выявіліся ў цэлым комплексе унікальных кампазіцый. Гэта ягонай любоўю да Бога, фантазіяй, удумлівасцю і майстэрствам створаны непаўторныя разьбяныя алтары і ўся мэбля ў касцёле Святога Якуба, што ў вёсцы Мілюны.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА**

*На здымку: Антон Мацкевіч у касцёле Святога Якуба.*

**Фота аўтара**

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# АД ПАДКАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## У галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

***Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года дапушчаны наступныя работы:***

***У галіне літаратуры:***

**1. МАКАЛОВІЧ І.П Кніга публіцыстыкі "О, як далёка нам яшчэ да Беларусі".**
Прадстаўлена Беларускім камітэтам міру.

**2. САБІНА П.І. Экалагічная дылогія "Плач вады".**
Прадстаўлена Беларускім фондам культуры.

**3. КУПРЭЕЎ М.С. Кніга вершаў "Правінцыйныя фантазіі".**
Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**4. ЯГОЎДЗІК У.І. Кнігі апавяданняў для дзяцей і юнацтва "У царстве Вадзяніка" і "Дзівосны карабель".**
Прадстаўлены Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**5. ДАЛІДОВІЧ Г.В. Раман "Заходнікі".**
Прадстаўлены Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**6. КАЗЛОВІЧ А.М. Кніга мастацкай публіцыстыкі "Если бы да кабы".**
Прадстаўлена Беларускім літаратурным фондам.

**7. ЧАРГІНЕЦ М.І. Раманы "За секунду до выстрела" і "Илоты безумия".**
Прадстаўлены Беларускім літаратурным фондам.

**8. СТОМА В.І. Кніга для дзяцей і юнацтва "Гаспадар таямнічых віроў".**
Прадстаўлена пярвічнай арганізацыяй Беларускага Саюза журналістаў г. п. Карэлічы.

***У галіне мастацтва і архітэктуры:***

**1. ЕЛІЗАР'ЕЎ В.М., МДЗІВАНІ А.Ю., ПРАВАТОРАЎ Г.П., ОКУНЕЎ В.А., ДУШКЕВІЧ І.А., ФАДЗЕЕВА К.Ю., ЗАХАРАЎ В.М., ДАЎГІХ У.В. Балет "Страсці" (Рагнеда).**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**2. ФІНБЕРГ М.Я. Канцэртныя праграмы 1992-1995 гадоў.**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**3. ДАМАРАЦКІ У.А. Другі канцэрт для трубы з аркестрам.**
Прадстаўлены Саюзам кампазітараў Беларусі.

**4. ЗАЛЁТНЕЎ А.Б., БЕЛЬЦЮКОЎ С.П., ШУТ А.А. Канцэртная праграма беларускай духоўнай музыкі ("Усяночная" і "Літургія св. Іаана Златавуста").**
Прадстаўлена ўпраўленнем культуры і інфармацыі Мінскага аблвыканкама.

**5. ГАЯВАЯ В.І. Пастаноўкі "По старонках Полацкага сшытка" і " Бывай, 20-е стагоддзе".**
Прадстаўлена Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**6. ТАРАСАЎ С.В., ШАВЯЛЕВІЧ В.В., ВАСІНЕЎСКІ У.Ф., СІМАКОВІЧ Л.В. Мастацкія фільмы "Прыйдзі і віждзь", "Пастка для зубра. Ягайла", "Пастка для зубра. Вітаўт".**
Прадстаўлены Цэнтралізаванай сістэмай дзяржаўных масавых бібліятэк г. Мінска.

**7. БАСАЎ В.Р., ЗАЯЦ І.Ф. Дакументальны фільм "Імгненні радасці".**
Прадстаўлены Беларускім Саюзам кінематаграфістаў.

**8. ТУРАЎ В.П. Цыкл мастацкіх фільмаў "Высокая кроў", "Чорны бусел", "Шляхціц Завальня".**
Прадстаўлены кінастудыяй "Беларусьфільм".

**9. МАРЧУК Г.В., ЦІТОЎ В.А., СПАРЫШКОЎ У.П., ЗАЙЦАЎ Д.Я. Мастацкі фільм "Кветкі правінцыі".**
Прадстаўлены грамадскасцю г. Давыд-Гарадка.

**10. АРЦІМОВІЧ А.Я., ІНЬКОЎ М.М., КАНЦАВЫ М.П., РЫБАКОЎ В.В. Помнік Аляксандру Гараўцу ў г. Віцебску.**
Прадстаўлены Беларускім Саюзам мастакоў.

**11. КРЫВАБЛОЦКІ У.В. Мазаічнае пано "Дрэва жыцця" ў г. Салігорску.**
Прадстаўлена Беларускім Саюзам мастакоў.

**12. КІШЧАНКА А.М. Манументальны габелен "Габелен стагоддзя".**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**13. САВІЦКІ М.А. Цыкл жывапісных твораў "Чорная быль".**
Прадстаўлены Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

**14. БАРАНОЎСКІ А.В. Цыкл жывапісных твораў "Далягляды бацькаўшчыны".**
Прадстаўлены Беларускай акадэміяй выяўленчага мастацтва.

**15. ІВАНЧАНКА Ф.М., САХНО В.І., КАЗАКОВА П.К., ЗОРЫН І.С., СЕРДЗЮКОЎ Ю.І., ВАРАБ'ЁЎ А.А., ПАТАПАЎ Ю.Ф., ЯРУШЫН А.І. Архітэктурны ансамбль цэнтра горада Салігорска.**
Прадстаўлены Беларускім Саюзам архітэктараў.

*Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь звяртаецца да кіраўнікоў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, творчых саюзаў і прафесійных аб'яднанняў, міністэрстваў і ведамстваў з просьбай правесці грамадскае абмеркаванне названых работ і аўтарскіх калектываў.*

*Водгукі, матэрыялы абмеркаванняў, прапановы і заўвагі па работах і аўтарскіх калектывах просьба накіроўваць у Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры да 15 кастрычніка 1996 года на адрас:* ***220072 г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2, пакой 412, тэл. 268-53-81.***

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

* * *

**Пачалася падрыхтоўка да міжнароднага блюзавага фестывалю ў Мінску.** Напрыканцы жніўня пройдзе шэраг канцэртаў пад агульнай назвай "Блюз жыве ў Мінску". У праекце прымуць удзел музыканты сталічнага "Стар-клуба", мяркуецца запрасіць выканаўцаў з іншых гарадоў краіны.

* * *

**З нагоды юбілею бітвы на Красным Стане,** у якой 5 жніўня 1506 года войска Вялікага княства Літоўскага змагалася супраць крымскіх татараў, пад Клецкам адкрыты помнік. Ініцыятарамі акцыі сталі супрацоўнікі мясцовага гісторыка-этнаграфічнага музея.

* * *

**Паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч"** правёў свае гастролі на Гарадзеншчыне. Сёлета ў праграме тэатра вылучаюцца спектаклі: "Пакорлівая" паводле Ф.Дастаеўскага, "Дабравесце ад Уладзіміра" на матэрыяле твораў Уладзіміра Караткевіча, "Белы сон", у аснове якога — "Споведзь" Ларысы Геніюш. У Мінску тэатр на днях правёў вечарыну памяці паэта Сяргея Новіка-Пеюна.

* * *

**У Нацыянальным мастацкім музеі** экспануюцца персанальныя выставы графікі Ядзвігі Раздзялоўскай і Дзмітрыя Крачкоўскага, якія жылі і працавалі ў Маладзечна.

* * *

**22 жніўня тамсама адчыніцца выстава "Габелен і мастацкія тканіны"**, складзеная з твораў беларускіх мастакоў, выкананых на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва.

* * *

**У Палацы мастацтва** працуюць юбілейныя выставы мінчаніна Леаніда Дробава і Уладзіміра Рубцова з Бабруйска.

# КАЛІ ЎМЕЕ ПРАЦАВАЦЬ ДУША



Тадэвуша Хацяловіча лёс не песціў. Закончыў ПТВ, працаваў слесарам у Даўгаўпілсе на заводзе моталанцугоў. Але работу давялося кінуць — захварэла маці, і Тадэвуш Іосіфавіч перабраўся да яе ў вёску Пузавічы Браслаўскага раёна. Бяда адна не ходзіць. Памерла маці і самога яго сталі даймаць хваробы. Так і застаўся ён у матчыным доме без сродкаў і грамадзянства (дакументы з Латвіі да гэтага часу не атрымаў). Выпадковыя заробкі і больш чым сціплая гаспадарка неяк падтрымліваюць. Але дзіўна, што нават у такой сітуацыі душа ягоная ўспрымае прыгожае.

Нейк пачуў Тадэвуш ігру на скрыпцы самадзейнага музыкі, і так кранула яго мелодыя, што захацелася і самому навучыцца іграць. Скрыпку купіць няма дзе ды і няма за што. І тады выправіўся ён да вядомага на Браслаўшчыне музыкі Дзімітрэнкі, каб зняць памеры інструмента і зрабіць самаму. Музыка над гэтай ідэяй пасмяяўся. Маўляў, не выйдзе ў цябе нічога. Але памыліўся. Доўга падбіраў Тадэвуш матэрыял, доўга майстраваў, перараблiваў. А калі зрабіў, зноў паехаў да Дзімітрэнкі, і атрымала зробленая скрыпка найвышэйшую адзнаку. З таго часу майстра зрабіў ужо некалькі інструментаў, але з першай скрыпкай не расстаецца. Час ад часу бярэ яе ў рукі, каб змякчыць мелодыяй душу.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА**

На здымку: майстар слухае скрыпку.

**Фота аўтара**

# ПАЭТАМ МОЖАШ ТЫ НЕ БЫЦЬ...

Адбыўся ўстаноўчы з'езд маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум". Сярод асноўных мэт новаўтворанага аб'яднання: садзейнічанне пабудове ў Рэспубліцы Беларусь дэмакратычнай, прававой, суверэннай дзяржавы, абарона правоў, свабод і законных патрабаванняў моладзі ў рамках дзейнага заканадаўства. Сваімі галоўнымі задачамі заснавальнікі лічаць прапаганду ліберальна-кансерватыўных ідэй, выхаванне павагі да хрысціянскіх і агульначалавечых каштоўнасцяў, садзейнічанне рынычнымператварэнням беларускай эканомікі, развіццю моладзі ў традыцыях агульначалавечай і беларускай культуры. Мяркуецца стварэнне сваіх вучэбных цэнтраў, мэтавых і дабрачынных фондаў.

У праграме маладзёжна-грамадскага руху падкрэсліваецца, што пабудова цывілізаванага грамадства немагчыма без развіцця духоўнай культуры, таму нельга дапусціць гаротнага стану культуры, навукі, адукацыі. На думку заснавальнікаў "Грамадзянскага форуму", стварэнне высокага інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі — залог яе будучага развіцця, і, адпаведна, сістэма адукацыі ў краіне павінна адпавядаць сусветным стандартам. Гэтага можна дасягнуць цераз забеспячэнне для сістэмы адукацыі прыярытэтнага бюджэтнага фінансавання, праз актыўнае прыцягненне недзяржаўных сродкаў, гарантыю свабоды выбару сродкаў і форм атрымання адукацыі. Сярод канкрэтных праграмных прапаноў варта вылучыць наступныя: вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі павінны атрымаць права на самакіраванне, кожны студэнт і вучань павінны мець права на льготны крэдыт для атрымання адукацыі. Арганізатары лічаць неабходным падтрымліваць маладыя таленты і новыя культурныя ініцыятывы, якія ідуць ад моладзі.

У бліжэйшы час мяркуецца сабраць круглы стол з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый рознай палітычнай арыентацыі для абмену вопытам у рабоце з моладдзю.

**Лесь ТУР**

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

***Усім, каму неабыякавы лёс беларускай культуры, нагадваем, што ў гэтым годзе нашае выданне паступае ў шапікі "Белсаюздруку" ў абмежаванай колькасці. Таму каб мець магчымасць рэгулярна атрымліваць і чытаць газету "Культура", раім Вам падпісацца на яе з IV квартала 1996 года. Падпіска прымаецца без абмежаванняў усімі аддзяленнямі сувязі.***

***Кошт падпіскі:***
***на адзін месяц — 12 тысяч рублёў;***
***на чацверты квартал — 36 тысяч рублёў.***
***Падпісны індэкс "Культуры" — 63875.***

***Выбіраючы нашу газету, Вы аддаяце свой голас:***
***— за нацыянальнае адраджэнне Беларусі;***
***— за родную мову;***
***— за зберажэнне і развіццё культурных традыцый нацыянальных меншасцей;***
***— за больш важкі клопат дзяржавы ў вырашэнні матэрыяльна-эканамічных праблем культуры.***

***Рэдакцыя***

## ПАСОЛЬСКІ КЛУБ

# "МАЁ СЭРЦА ЗАСТАЕЦЦА З ВАМІ..."

***Народжаны пад знакам Вадалея. Працавіты. Тонкая інтуіцыя. Валодае дарам прадчування будучых падзей, што дапамагло стаць прафесійным дыпламатам. Дыпламатычнай кар'еры аддаў больш за 30 гадоў свайго жыцця. Не шкадаваў і не шкадуе аб гэтым.***

***У Даніі, Катары, іншых краінах ён годна прадстаўляў сваю незалежную суверэнную радзіму. З 1992 па 1996 год — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Індыі на Беларусі.***

**—За час знаходжання на Беларусі Вы, пан пасол, назапасілі шмат уражанняў аб нашай краіне, яе людзях. Распавядзіце, калі ласка, пра гэта чытачам нашай газеты.**

— У вас вельмі добразычлівы і гасцінны народ. Што мне падабаецца ў характары вашых людзей? Аптымізм. Нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасці, яны захоўваюць спакой, поўныя спадзяванняў на лепшую будучыню. Я таксама прыемна здзіўлены высокім музычным узроўнем беларусаў. У вас цудоўныя опера, балет, шмат таленавітых музыкантаў сярод моладзі. Вялікае ўражанне на мяне зрабілі вашыя народныя танцы, песні, творы народных майстроў.

**— Для беларусаў Індыя — краіна шоўку, фантастычных садоў і храмаў з чароўнымі роспісамі ды скульптурамі. Мы палюбілі яе па фільмах Раджа Капура. Гэта краіна, якая падарыла свету Рабіндраната Тагора, Махатму Гандзі, Джавахарлала Неру... Тут жыў і ствараў мастак Мікалай Рэрых. Распавядзіце, калі ласка, троху пра культуру цудоўнай і непаўторнай Індыі.**

— Індыйская культура не з'ўляецца пераважна індускай альбо мусульманскай. Яна ўяўляе сабой зліццё ўсіх веравызнанняў. У Індыі багатыя традыцыі народных мастацтваў, танца, драматургіі і класічнай музыкі. Музыка лічыцца першым з мастацтваў, пераўзыходзячы архітэктуру, скульптуру і жывапіс. Унікальным дасягненнем Індыі была сістэма Рага-Тага. Яна ўпершыню стварыла нотную сістэму. Сёння гэтай музычнай сістэме ўжо споўнілася 8 тысяч гадоў. Музыка грунтуецца на падмурку мелодыі, гармоніі і рытму. Гармоніі ў тым сэнсе, як гэта разумеюць на Захадзе, у індыйскай музыцы не існуе. Але тут высока развітыя мелодыя і рытм. Помнікі архітэктуры не маюць аналагаў у свеце па сваёй разнастайнасці, прыгажосці, дызайне. Яны адлюстроўваюць мноства стыляў. Тут вы ўбачыце, што мінулае існуе і цяпер. Пабудовы дагістарычных часоў цудоўна суседнічаюць з будынкамі нашага часу. Сёння ў нас налічваецца каля пяці тысяч помнікаў архітэктуры агульнанацыянальнага значэння, якія знаходзяцца пад ахоўвай Індыйскага археалагічнага таварыства, заснаванага ў 1861 годзе. Кожны манумент адлюстроўвае вялікую сілу асіміляцыі, характэрную для нашай краіны, а таксама нацыянальны каларыт і своеасаблівасць культур, што нарадзіліся ў Індыі.

**— Пан пасол, я з вялікім задавальненнем чытаю на рускай мове часопіс "Індыя", які Вы мне дасылаеце. Мне цікава было даведацца, што ў Дэлі існуе адзіны ў свеце шпіталь для птушак.**

—Так. Калі ў Тадж-Махал людзей прыцягвае надзвычайнае хараство маўзалея, дык сюды прыязджаюць з розных куткоў планеты аматары птушак. Вось адзін з запісаў, пакінутых наведнікамі ў кнізе водгукаў: "Менавіта так зявішчаў нам Гасподзь ставіцца да ўсяго жывога". Шпіталь быў заснаваны ў 1930 годзе. Штодня ён прымае "хворых", што пакутуюць на пераломы, захворванні вачэй, страўніка. Птушкі, якія трапілі ў шпіталь, ужо ніколі не вяртаюцца да сваіх гаспадароў. Уздоўж сцяны месцяцца велізарная колькасць клетак, плошча кожнай з якіх 18 квадратных цаляў. У іх утрымоўваюцца птушкі да іхняга выздараўлення. Як толькі птушкі становяцца здаровымі, іх адпускаюць на волю. Загінуўшых птушак згодна з індускай традыцыяй спальваюць, а попел кідаюць у Джамну. У гэты унікальны шпіталь прымаюць усіх птушак за выключэннем соў — з прычыны іхняй крыважэрнасці.

**— Пан пасол, як мне вядома, некалькі гадоў таму ў Індыі, у Новым Дэлі быў арганізаваны саміт па адукацыі. Ён стаў сапраўды гістарычнай падзеяй і прыцягнуў увагу сусветнай грамадскасці да думкі аб неабходнасці даць пачатковую адукацыю кожнаму жыхару планеты.**

— На той незабыўнай сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі такіх краін, як Бангладэш, Бразілія, Кітай, Егіпет, Індыя, Інданезія, Мексіка, Нігерыя, Пакістан. Прэм'ер-міністр Нарасімха Рао ў сваім звароце да ўдзельнікаў сустрэчы адзначыў, што адукацыя робіць унікальны ўнёсак у сённяшні дзень і будучыню планеты. Гэта падмурак, на якім будуюцца грамадства, эканоміка і палітыка. Унёсак адукацыі ў падтрыманне міру, талерантнасці і гармоніі ў асобных краінах свету немагчыма пераацаніць. Саміт прыняў абавязацельства, якое прадугледжвае стварыць да 2000 года адукаванае грамадства на Зямлі, дзе ніводны дарослы не будзе непісьменным і ўсе дзеці будуць наведваць школы.

**— Распавядзіце, калі ласка, пра ролю эстэтычнага выхавання маладога пакалення ў Вашай краіне.**

— Як Вам вядома, Індыя — краіна з велізарнымі патрэбамі і абмежаванымі рэсурсамі. Таму ў нас няма сістэмнай праграмы эстэтычнага выхавання дзяцей, якая, магчыма, распрацавана тут. Кожнае дзіця да 9 — 10 гадоў вучыцца маляваць, а далейшая адукацыя залежыць ужо ад самога дзіцяці. Такім жа чынам у большасці школ дзеці вывучаюць музыку і танцы. Але толькі нямногія бацькі вітаюць заняткі сваіх дзяцей танцамі і музыкай як часткай іх агульнай адукацыі. Немалую ролю сёння ў эстэтычным выхаванні адыгрывае нацыянальны фестываль Радасці Спазнання, арганізаваны ў Дэлі. Гэта была першая спроба сабраць вялікую колькасць студэнтаў і выкладчыкаў, каб паказаць, што навучанне ў школе альбо ВНУ можна зрабіць радасным. Апошні дзень фестывалю супаў з угодкамі з дня нараджэння першага прэм'ер-міністра Індыі Джавахарлала Неру. Яшчэ ў чэрвені 1944 года ён пісаў з турмы сваёй дачцэ Індзіры Гандзі, што дзіця трэба разглядаць як асобу і прадастаўляць усе магчымасці для яе развіцця. У 1948 годзе ён заклікаў стварыць такі тып адукацыі, які б вызваліў студэнтаў у "сферы духу", а не заціскаў бы іх у пэўных межах.

Кажучы, па стаўленні да старых і дзяцей мяркуюць пра дасканаласць грамадскага ладу. У індыйскім грамадстве людзі самі павінны выхоўваць дзяцей і даглядаць сваіх бацькоў. Дзяржаўныя структуры не вельмі шырока ўдзельнічаюць у гэтым. Тым не менш існуюць некаторыя праграмы ў гэтым накірунку. У прыватнасці, існуе школа ўсебаковага развіцця дзіцяці, куды ўваходзяць дадатковае харчаванне, вакцынацыя, ахова здароўя, дашкольная і нефармальная адукацыя, харчаванне і медыцынская адукацыя для маці.

У групе займаюцца дзеці да шасці гадоў, цяжарныя жанчыны і маладыя маці. Сёння каля 20 мільёнаў маці і дзяцей атрымоўваюць дапамогу згодна з гэтай праграмай. Гэта не вельмі шмат, улічваючы колькасць насельніцтва Індыі, але гэта крок у правільным напрамку.

6,5 працэнта насельніцтва Індыі складаюць людзі, старэйшыя за 60 гадоў. Урад дапамагае многім добраахвотным арганізацыям у стварэнні Дамоў для састарэлых і Цэнтраў па доглядзе старых людзей. Як я ўжо адзначаў, асноўны клопат пра пажылых людзей кладзецца на сям'ю, прычым не толькі на бліжэйшых сваякоў, але і на далёкіх — пляменнікаў, пляменніц і да т.п. Трэба адзначыць клопат пра здароўе разумова неразвітых, хворых людзей.

У Індыі шырока вядомы зборнік апавяданняў пра жывёл пад назвай "Панчатантра". Ён быў складзены адным з настаўнікаў старажытнага індыйскага караля, тры сыны якога былі няздольныя да вучобы. Яны авалодалі мастацтвам кіравання дзяржавай праз гэтыя апавяданні аб жывёлах. Гэта тое, што мы называем сёння спецыяльнай адукацыяй. І каб палепшыць гэтую адукацыю, у нашай краіне ў 1981 годзе створана арганізацыя Самадхан (санскрыцкі тэрмін, які азначае "вырашэнне пытанняў"). У цэнтры ўвагі знаходзяцца дзеці бедных людзей у Дэлі і ягоных ваколіцах. Прафесіяналы аказваюць ім дапамогу дома.

**— Пан пасол, у якой сферы супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі развіваецца найбольш плённа?**

— Дзякуючы добрым кантактам Беларускага інстытута парашковай металургіі з індыйскай абаронная металургічнай даследчыцкай лабараторыяй узнікла сумеснае прадпрыемства. Яно дзейнічае сёння на тэрыторыі нашай краіны. Плённае супрацоўніцтва наладжана і ў галіне спорту. За апошнія некалькі гадоў індыйскія спартыўныя каманды правялі ў вашай рэспубліцы трэніроўкі па лёгкай атлетыцы, стральбе, дзюдо, грэблі, фехтаванні. У Індыі ў сваю чаргу паспяхова працавалі беларускія трэнеры. Нашу краіну наведала таксама каманда спартыўнага цэнтра "Дынама" ў складзе шасцідзесяці чалавек. Спадзяюся, што і далей беларуска-індыйскія стасункі будуць развівацца плённа па разнастайных накірунках.

**— Якія чалавечыя якасці Вы ацэньваеце вышэй за ўсё?**

— Я мяркую, трэба быць здольным зразумець пункт погляду іншага чалавека і ўмець спачуваць тым, хто знаходзіцца ў цяжкім становішчы.



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

*" У сакавіку я даў невялікае інтэрв'ю для адной з беларускіх газет пад назвай "На Беларусі зусім "не сумна".*

*Сказана занадта мякка. Калі шмат працы, пра які сум можа ісці гаворка? Паміж Індыяй і Беларуссю шмат агульнага, таму той час (і працоўны, і вольны), які мне пашчасціла правесці ў Мінску, я прысвяціў як мага больш хуткаму збліжэнню дзвюх нашых культур, дзвюх нацыянальнасцяў. Гэтае інтэрв'ю, якое я даю газеце "Культура", з'яўляецца маім апошнім выступленнем у друку ў якасці Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Індыі ў Рэспубліцы Беларусь. Але я не кажу "бывайце!". Гэтае слова непрымальнае для чалавека, які шчыра любіць. Да пабачэння, Беларусь! Мы яшчэ абавязкова ўбачымся і спадзяюся, што расстанне будзе нядоўгім. Маё сэрца застаецца з Вамі".*

***Рамеш Чандра Шукла, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Індыі ў Рэспубліцы Беларусь.***



*Рамеш Чандра Шукла распавёў мне і пра індыйскі рэстаран, які адчынілі ў Брэсце браты з Індыі, пра гуманітарную дапамогу прэм'ер-міністра пана Нарасімха Рао, якая складае 5 мільёнаў рупій. І я падумала пра тое, як трэба цаніць у нашым сённяшнім неспакойным, ненадзейным свеце простыя, чалавечыя кантакты. І тады на нашай маленькай планеце не будзе аніякіх межаў...*

**З пслом гутарыла Людміла КОЗІНА**

*← На здымку: Дзева Шарыф у Утар Прадэшы. (Фота Джаведа Хашмі, "Індыя Перспектывы").*

## МА СТЫР ХІН

# КРОЎ НА ЗОЛАЦЕ СУСВЕТУ...

У Нацыянальным мастацкім музеі завяршылася выстава жывапісу Ізраіля Басава. Хаця з дня смерці майстра мінула ўжо больш за два гады, я, нібы сёння, чую ягоны троху глухаваты голас, бачу мяккую, збянтэжаную ўсмешку, задумлівае аблічча, у якім унутраная чалавечая сціпласць і незалежнасць мастакоўскіх поглядаў спалучаліся з дзіўнай прастадушнасцю.

Лёс быў трагічна нялітасцівы да Басава. Пры жыцці ён не паспеў зрабіць ніводнай сваёй персанальнай выставы — з прычыны атмасферы абсалютнага неразумення як з боку афіцыйных структур, так і з боку нашага мастацтвазнаўства. Нават у шасцітомнай "Гісторыі беларускага мастацтва" Леанід Дробаў, разважаючы пра пейзаж і партрэт, не згадаў ніводнага разу ягонае імя!

Памятаю, як радаваўся Басаў, калі ў 1968 годзе ў адным з артыкулаў у "ЛіМе" я прысвяціў ягонай карціне "Успаміны" вялікі фрагмент... І хто б мог падумаць, што ў такога неабароненага чалавека, якім быў Басаў, знойдуцца сілы для сапраўды мужнага змагання супраць, такога дзіўнага стаўлення людзей!

Амаль штодня, раніцай, ён падніmaўся да сябе ў майстэрню і станавіўся да мальберта. Я тады — у 60-я гады — часта заходзіў да яго і гадзінамі разглядаў ягоныя непадобныя ні да каго творы. У асноўным яны былі прысвечаны Мінску і ягоным беспрытульным жыхарам, якія бачыліся яму нібыта праз прызму сумнай мелодыі. А карціны "Успаміны" і "Гарадская ўскраіна" падаліся мне тады шэдэўрамі. Яны і зараз — шэдэўры беларускага жывапісу, поўныя глыбокага філасофскага роздуму пра хуткаплыннасць часу...

Аднак у кулуарах і тады пра Басава казалі шмат добрага, лічачы яго сапраўды таленавітым і своеасаблівым мастаком. Але калі справа даходзіла да выставы — суддзі, гэта значыць, члены выставачных камітэтаў, глядзелі на Басава, мякка кажучы, насцярожана, і, зазвычай, ягоныя творы рэдка траплялі ў экспазіцыі. А потым і сам мастак не прыносіў ужо на выстаўкамы свае новыя карціны. Працаваў "для сябе", укладаючы ў палатно свой сум, свае няпростыя развагі, перажыванні. Ён гутарыў з палатном як з жывой істотай, справядліва мяркуючы, што гэта ягоны адзіны сябар, якому можна давяраць.

У апошні раз я бачыў Басава ў Саюзе мастакоў незадоўга да ягонай смерці. Хворы, знясілены, ён усё ж меў надзею на тое, што хутка адбудзецца ягоная выстава ў Маскве, узгадваў нашыя даўнія сустрэчы ў ягонай майстэрні за бутэлечкай "сухога". Тады мне было 25, а яму — больш за 45...





Выстава жывапісу І.Басава — з'ява выключная. Выставачная плошча аказалася заваяванай выразнасцю надзвычай рознахарактарных колеравых варыяцый. Такая энергія колеру, здольнага цалкам падпарадкаваць сваёй уладзе выставачную тэрыторыю, падуладная толькі вялікаму майстру. Але дэкаратыўныя якасці твораў, якімі б высокімі і дасканалымі яны ні былі, з'яўляюцца толькі "мовай" паэтычнага свету мастака.

Вельмі шмат важнага здолеў сказаць Басаў на гэтай мове. Прычым ад лірычнага, суб'ектыўнага ўспрыняцця жывапісу ён узнімаецца да шырыні абагульненняў, да манументальнасці, нават да эпасу. Я думаў раней, што ён — "сумны лірык" паводле прызвання, лірык-сузіральнік, лірык філасофскага складу, аўтар колеравых споведзяў, у якіх пануе тонка выказанае асабістае пачуццё. Але толькі цяпер я зразумеў, што майстар зусім не абмяжоўваўся стыхійным перажываннем, а ішоў ад яго да шырока ўзятага метафарычнага адлюстравання жыцця нашай дзіўна неўраўнаважанай планеты.

Ён любіў Руо, Шагала і Ван Гога, Фалька і Пікасо, Матыса і Сезана, Рублёва і Феафана Грэка, сярод беларусаў — жывапіс Шчамялёва і Малішэўскага... Аднак асновы мастакоўскага ладу палотнаў Басава вызначаліся не традыцыямі, не ўплывамі, а перш за ўсё характарам уласнага светаадчування.

У ягоным мастацтве адсутнічае ўсялякая, так бы мовіць, аповеднасць. Ягоныя асацыятыўныя паралелі маюць нібыта музычны характар. Абапіраючыся на свае пачуцці, мастак ідзе да жывапісна-пластычных канцэпцый, выкарыстоўваючы рэчавыя матывы як своеасаблівы першасны матэрыял для стварэння вобраза. Самі падобныя матывы маюць толькі дапаможны характар, як словы пры выказванні думкі. Безумоўна, гэтыя "словы"-дэталі лёгка пазнаюцца ў творах Басава, выява "чытаецца" лёгка. Але мастак не дамагаецца строгай дакладнасці натуры. Ён стварае кампазіцыі, якія толькі абапіраюцца на свае жыццёвыя прататыпы. Інакш кажучы, у творах Басава не столькі колер натуры, колькі колер трывожнага вобраза.

Спалучэнне лірыкі і драматычнай эпічнасці ўключае ў сябе яшчэ адну рысу басаўскага пластычнага свету. На карцінах адлюстравана штосьці трывалае, пастаяннае, устойлівае — свайго кшталту ўлонне жыцця. Але тут жа бачнае несупыннае цячэнне штодзённасці, адчуваецца пастаянны канфлікт чалавека і горада, чалавека і сусвету, чалавека і прыроды.

Карціна "Бег", якую мастак пісаў амаль два гады, — кульмінацыя гэтага канфлікту: чалавек, які вечна бяжыць, не здольны вырвацца з замкнёнага кола жыцця... І наступная карціна "У дарозе" — таксама пра гэта. Пра немагчымасць знайсці сваю дарогу, свой фініш. Вечны шлях... Шлях, які ўсё ж сканчваецца разам са спыненнем сэрца... Але гэта ўжо за мяжой чалавечай, мастакоўскай свядомасці. Як і той, самы апошні "Чырвоны пейзаж" — крывавы след пэндзля на золаце духоўнага Сусвету...

**Барыс КРЭПАК**

*На здымках: Ізраіль Басаў у майстэрні; "Успаміны". Палатно, алей.*

# ВІЦЕБСКАЯ АКВАРЭЛЬ НІБЫТА МУЗЫКА..







Пра Віцебскую школу акварэлі ў апошні час шмат гавораць і пішуць. У горадзе на Дзвіне ўжо створана творчае аб'яднанне акварэлістаў, імёны выбітных прадстаўнікоў гэтай школы — Ф.Гумена, Г.Шутава, В.Ральцэвіча, В.Лук'янава, У.Іванова, М.Драненкі і іншых — становяцца ўсё больш вядомымі. Але выставы, паводле якой можна было б меркаваць пра своеасаблівасць і арыгінальны напрамак гэтай школы, у Мінску пакуль не было.

І вось — адбылося. Сапраўды, віцебская акварэль, якую мы ўбачылі ў Палацы мастацтва, з'ява ў нечым унікальная. Я не схільны шукаць яе карані ў віцебскім авангардным руху 20-х гадоў, як гэта робяць некаторыя мастацтвазнаўцы. Хутчэй, яе падмурак грунтуецца на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута 60 — 70-х гадоў, калі там працавалі такія майстры, як Гумен і Сталяроў. Невыпадкова, што сёння іхнія вучні паспяхова працуюць у акварэльным жывапісе не толькі ў Віцебску, але і ў Магілёве, Бабруйску, Гродне, Мінску.

І хаця экспазіцыя была невялікая па памерах, яна здолела даць пэўнае ўяўленне пра сучасныя вобразна-пластычныя пошукі і знаходкі мастакоў. Іх, такіх розных, аб'ядноўвае, мабыць, самае галоўнае: любоў да сваёй зямлі, да сваёй прафесіі. І гэтая сардэчная чысціня гучыць светлай музыкай у акварэльных пейзажах і партрэтах, фігуратыўных кампазіцыях і нацюрмортах. Так трымаць, віцябляне!

**Наш кар.**



*На здымках:*

*Уладзімір Іваноў. "Браслаўшчына";*

*Фелікс Гумен. "Партрэт мастака А.Мемуса";*

*Мікалай Драненка. "Малая Беліца";*

*Алег Кастагрыз. "Крык пеўня".*

***Фота Генадзя ЖЫНКОВА***

У сталічным Палацы мастацтва экспанавалася выстава мастакоў — членаў міжнароднай творчай суполкі "Сонечны квадрат", у якую ўваходзяць жывапісцы блізкага і далёкага замежжа, у тым ліку і з Беларусі. Мэты і задачы групы арыентаваны на "гарманізацыю адкрытых творчых стасункаў і развіццё індывідуальнасці аўтара", стварэнне чалавечай прасторы, дзе побач ідуць казка і рэальнасць, мара і рэчаіснасць і дзе нават "абстракцыя сагрэта пачуццямі".

**Наш кар.**



*На здымках:*
*Каці Клазэль (Францыя). "Кветкі".*
*Мікалай Бушчык (Беларусь). "Без назвы".*



АБШАРЫ

# СЛУЧЭСК, СЛУЦАК, СЛУЦК...

**17 жніўня 1996 года адзін з найстаражытных гарадоў Беларусі адзначыў сваё 880-годдзе!**

**У гэтых мясцінах нараджаецца чыстая беларуская песня. Тут адчуваецца подых гісторыі і чалавечага шчасця. Паўсюль бачыцца свая непаўторная случанская прастора, па якой хочацца праляцець на залатым месяцы і праспяваць заліхвацкую песню.**

**Гэтую старонку нашай газеты мы прысвячаем гісторыі і культурнаму жыццю Случчыны.**

# ДЗЕ Ж ВЫ, СКАРБЫ ПРОДКАЎ?

За сто кіламетраў на поўдзень ад Мінска ў квецені зялёных садоў раскінуўся невялічкі, адзін са старэйшых гарадоў Беларусі — Слуцк, калісь называлі яго Случэск, Слуцак. Гісторыя гэтага славянскага гарадка, багатая і цікавая, вядзе да 1116 года, калі "князь менскі Глеб ваяваў дрыгавічы і Случэск спаліў". Так упершыню ўспамінаецца ў летапісе "Аповесці мінулых гадоў", але сама падзея сведчыць аб тым, што горад узнік значна раней.

У канцы XII ст. утварылася Слуцкае княства са сталіцай у г. Слуцку. Адным з першых князёў быў унук вядомага князя Уладзіміра Манамаха. Потым — даўжэй за ўсіх, княжылі Алелькавічы — у агульным складзе 200 гадоў. Пасля іх, крыху менш, — Радзівілы.

Год ад году горад буйнеў і прыгажэў, а к XVII ст.ператварыўся ў буйную крэпасць. А колькі разоў рабілі на яго напады татары! Але мужна сталі і храбра адбіваліся случакі.

Маскоўскі дзяк Т.Карабейнікаў падчас свайго падарожжа з Масквы ў Канстанцінопаль, праязджаючы праз Слуцк і параўноўваючы яго з іншымі гарадамі, пісаў: "Том город торги и посадом большее и лучшее Менска (Мянска), а река шириной с Москву-реку".




*"Старажытны Слуцк". Малюнак Ігара Ціткоўскага.*

Пры княжым двары ў Слуцку ў XVII—XVIII стст. працавала друкарня, дзе выдаваліся кнігі на польскай мове на рэлігійныя, ваенныя і іншыя тэмы, мастацкія творы, падручнікі. Існаваў тэатр, была створана балетная школа, дзе працавалі вядомыя майстры сваёй справы — Антоні Пуціні з Вены і французскі танцор і балетмайстар Луі Максіміліян Дзюпрэ. Капельмайстрам прыдворнага аркестра князя Г.Ф.Радзівіла быў вядомы музыкант Францішак Вітлан.

З 1617 года ў Слуцку існавала кальвініцкая гімназія, у якой выкладалі лепшыя педагогі Вялікага княства Літоўскага — Рэйнальд Адамі (Адамус, Адам), выхадзец з Баварыі, і Андрэй Дабжанскі (Дабранскі), а таксама выхадзец з Італіі Андрэй Музоній і інш.

Колькі вучоных, пісьменнікаў і мастакоў скончылі гэту старэйшую школу Беларусі! Усіх не пералічыць, але хочацца нагадаць, што сярод яе вучняў былі: беларускі і польскі пісьменнік Дамінік Рудніцкі, гісторык і паэт з Польшчы Мацей Стрыйкоўскі, польскі паэт і перакладчык Францішак Князьнін, мастак і мемуарыст з Літвы Эдвард Баніфацы Паўловіч, заснавальнік першай у Расіі клінікі па хваробах скуры Генрых Кулакойскі і інш.

Але ж вернемся да гісторыі XVIII стагоддзя. Менавіта ў гэты час пры двары Радзівілаў адчыняецца майстэрня, альбо, як тады яе называлі — персіярня, якая ў хуткім часе прынясіць вялікую славу нашаму краю сваімі паясамі, што тут выраблялiся.

У 1846 г. мануфактура была зачынена па загадзе князя Л.Вітгенштэйна. Аднак мастацкая каштоўнасць слуцкіх паясоў засталася нязменнай. У XIX ст. яны становяцца прадметам збору сярод аматараў антыкварыяту, пачынаецца іх навуковае збіранне і вывучэнне як вырабаў мастацкага ткацтва.

Самая багатая калекцыя слуцкіх паясоў мелася ў Нясвіжы, недалёка ад Слуцка, у князёў Радзівілаў. Пазней гэта калекцыя з 32 паясоў была перададзена ў Беларускую дзяржаўную гістарычную галерэю. Аднак у гады Вялікай Айчыннай вайны яна была страчана, і да цяперашняга часу так і засталося невядомым месца яе знаходжання. Наогул у Беларусі слуцкіх паясоў засталося зусім мала. Але ж ёсць яны ў Польшчы (Варшава, Кракаў, Люблін...), у Літве, на Украіне, упрыгожваюць музей шоўку ў Германіі, ёсць яны і ў ЗША, Францыі... З якім сумам і жалем даводзіцца аб гэтым гаварыць,бо ў нас, у Слуцку, на радзіме паясоў, акрамя асобных шаўковых фрагментаў няма ніводнага цэлага. І гэта яны, маленькія кавалачкі тканіны, ўратаваныя ад здзекаў і пажараў, упрыгожваюць экспазіцыю мясцовага краязнаўчага музея. Як цікава расказвае экскурсавод пра іх гісторыю, з якой зачараванасцю глядзяць на гэтыя шаўковыя фрагменты наведнікі і як заходзіцца сэрца пры думцы: "А ці вернецца калі на сваю Радзіму хаця адзін вось такі пояс?"

Слуцкі краязнаўчы музей адзін з буйных у Мінскай вобласці. Заснаваны ён больш за сорак гадоў таму. Нягледзячы на тое, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны горад быў амаль поўнасцю зруйнаваны, у музеі склаліся неблагія калекцыі: археалогіі, нумізматыкі, этнаграфіі, жывапісу і графікі, народнай творчасці, дакументаў і інш.

Але сярод іх на годным месцы няма тых каштоўнасцей, якія пачалі знікаць яшчэ з даўніх часоў. Гэта і тыя ж слуцкія паясы, якія разышліся па свеце ў прыватныя зборы і музейныя калекцыі,і слуцкія абразы (у Слуцку існавала свая школа іканапісу), у пачатку XX ст. у Англію трапіў прастол слуцкіх князёў, выкананы са слановай касці, у невядомым кірунку знікла бібліятэка Бергеля, слуцкага пастара.

У цяжкія гадзіны, развітваючыся са сваім родным кутом, кожны браў з сабой нешта блізкае сэрцу — ці то абразок, ці то паштоўкі з краявідамі, а можа куфель з урэчскага шкла, ці матулін ручнік. Так і разляцелася па свету добрая частка скарбаў продкаў. Але ж дзесьці яны ёсць, жывуць на чужыне маўкліва і ціхенька, а як шмат яны маглі б паведаміць роднаму краю! На першы погляд маленькая паперка-дакумент, фотаздымак, паштоўка, пісьмо ці кніжка... Але ж гэта яны дапамаглі б нам паставіць кропку над "і", альбо інакш паглядзець на нейкую падзею, напрыклад, тое ж Слуцкае паўстанне, гэта яны дапамаглі б інакш паглядзець на час — далёкі і блізкі.

Дык дзе ж вы, скарбы продкаў? Не забыліся ж вы пра Радзіму!?

Адгукніцеся!

**Валянціна ВІДЛОГА,**
**дырэктар Слуцкага краязнаўчага музея.**

# ПЕСНІ ЗА ВАКОЛІЦАЙ

На Случчыне дзьмуць вятры, гайдаюцца разлапістыя зялёныя дрэвы, качаецца па небастыку чырвонае сонейка. А сярод гэтага цячэ чалавечае жыццё не самае лепшае ў свеце, але і не самае горшае.

* * *

Першыя ўражанні ад сустрэчы са Слуцкам былі дзіўныя. Яны складаліся з рознакаляровых гарадскіх вуліц, на якіх сустракаліся вясёлыя і сур'ёзныя случакі, з марозіва , якім гандлявалі на кожным рагу прыгожыя гандляркі, з добрых слоў і цікавых гісторый, якія я чуў ад новых знаёмых.





Пасля невялікай экскурсіі па старажытным горадзе я накіраваўся да мясцовых прадстаўнікоў культуры...

* * *

***Загадчыца арганізацыйна-метадычнага цэнтра па культуры Слуцкага раёна Людміла КУЛІКОЎСКАЯ.***

— З грашыма на сённяшні дзень шмат праблем, але мы стараемся іх вырашаць. Нейк выжываем, праводзім цікавыя мерапрыемствы. Самае галоўнае наша дасягненне апошняга часу — гэта Маладзёжны тэатр эстрады. Вельмі цікавы калектыў. Зусім неардынарны і незалежны: грошы яны зарабляюць самі.

У другіх калектываў сваіх сродкаў няма, таму мы іх неяк падтрымліваем. Набываем у вясковыя дамы і клубы культуры апаратуру, касцюмы. Таксама па магчымасці знаходзім грошы на правядзенне масавых мерапрыемстваў. Вось апошняе наша свята "Слуцкія паясы" — традыцыйнае свята раёна — гэта візітная картка Случчыны. Раней яно праходзіла кожны год, але цяпер толькі раз на тры гады. Гэта тлумачыцца наступным... У нас на раёне распрацаваны святочны каляндар. Першы год праходзіць свята "Слуцкія паясы", другі год — фестываль фальклорных калектываў раёна, трэці год — свята гарманістаў. Гэта адны з самых масавых мерапрыемстваў. А так святы адбываюцца вельмі часта — у Дамах культуры, па цэнтральных сядзібах калгасаў і саўгасаў.

Літаральна зусім нядаўна быў праведзены рэспубліканскі агляд прафесійнага майстэрства "майстроў добрага настрою". Конкурс праходзіў на базе санаторыя "Случ". І сапраўды добры настрой атрымаўся — усе былі задаволены.

**— У бліжэйшы час нечым парадуеце?**

— Будзе рэгіянальнае свята — свята Бокшыцкіх гарманістаў. Потым юбілей воцатнага завода. Увесь час актыўна выступае маладзёжны тэатр.

**— Вы можаце вылучыць нейкае мерапрыемства?**

— Ведаеце, я люблю свае святы. Я ўжо шмат гадоў тут працую і бачу, што у нас кіраўнікі прадпрыемстваў і гаспадарак вельмі часта запрашаюць "варагаў". Мне ж вельмі падабаецца, калі святы маюць свой непаўторны твар. Калектывы толькі нашы — тады атрымліваецца цёплая сяброўская атмасфера. Самае каларытнае свята — безумоўна "Слуцкія паясы". На ім раскрываецца талент вясковай Случчыны.

**— Мабыць, ёсць тут своеасаблівыя рысы характару?..**

— Разважце самі. У нас ёсць адзін мужчына, ён прыйшоў працаваць у клуб без адукацыі і застаўся на ўсё жыццё. У працоўнай кніжцы Уласаўца Віктара Мікалаевіча толькі адзін запіс! Акрамя гэтага ён актыўны ўдзельнік фальклорнага калектыву сваёй вёскі, піша цудоўныя вершы. Такі, відаць, характар. Самадзейныя артысты збіраюцца і спяваюць для душы — у выхадныя. Жывуць калектывы не для "галачкі" — для ўсіх людзей, каб у тых быў добры настрой.

У нас няма трафарэту — вясковы клуб, вясковы Дом культуры. У нас ёсць дамы фальклору. Гэта значыць, паўсюль назіраюцца творчыя пошукі.

**— Заробкі невялікія?..**

— Працаўнікі клубных установ атрымліваюць мізэрныя грошы. Сёння вялікае дзіва, калі чалавек на адным месцы працуе доўгі час. Жыццё гэткае. Але нашы людзі не бягуць — яны любяць сваю справу.

**— Моладзь актыўна ўдзельнічае ў мерапрыемствах?**

— Мы задаволены.

* * *

***Як ні дзіўна, але акрамя загадчыцы, мне пашчасціла паразмаўляць з мастацкім кіраўніком і балетмайстрам Маладзёжнага тэатра эстрады Уладзімірам БАГУНОВЫМ. У час майго наведвання, ён завітаў у аддзел культуры...***

**— Уладзімір, адкуль з'явілася гэткая ідэя — стварыць свой тэатр?**

— Мы працуем ужо даўно. У гэтым годзе нам споўніцца пяць гадоў. Ідэя — каб вясялей было жыць.

Мне вельмі прыемна, што ў нашым тэатры шмат моладзі. Хлопцы і дзяўчаты. А працуем мы ў некалькіх жанрах: ёсць танцавальны калектыў, спевакі. Ёсць у нас сатыра і гумар.

Зараз мы рыхтуем новую праграму з беларускіх песень. Мы хочам дарыць людзям радасць. Выступаем штотыднёва. Гастралюем па ўсёй рэспубліцы. Глядзіце нашы праграмы 9 жніўня ў Барысаве, 17 жніўня ў Слуцку.

* * *

А супрацоўнікі гарадскога аддзела культуры былі ў гэтыя дні вельмі занятыя — набліжалася знамянальная дата — 880-годдзе Слуцка. Таму мая сустрэча з імі, на жаль, не атрымалася...

* * *

Калі вы пачуеце дзесьці, што ў старажытным горадзе Слуцку па праспекце ходзяць клоуны і музыкі, што на яго клумбах растуць экзатычныя кветкі, а мясцовыя паэты раз'язджаюць на мядзведзях, то не махайце адразу рукамі і не кажыце, што вас падманулі. Ведаеце, усялякае бывае... Тым больш у Слуцку.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

*На здымках: загадчык Лапаціцкага сельскага клуба Віктар Уласавец; фальклорны ансамбль вёскі Падлессе; балетны гурт Маладзёжнага тэатра эстрады.*

***Фота з архіва Слуцкага раённага аддзела культуры.***



КНІГАРНЯ

# Алег САЛТУК: "КАЛІ Ў САФІЙЦЫ ЗАГУЧЫЦЬ АРГАН..."



***Днямі адзначае сваё 50-годдзе вядомы беларускі паэт, сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Алег Салтук. У творчай скарбонцы юбіляра кнігі вершаў "Пачатак дня" (1974), "Працяг" (1977), "Святло зямлі" (1982), "На далонях жыцця" (1988), збор выбраных твораў (1992), шматлікія публікацыі ў перыядычным друку. У хуткім часе пабачыць свет новы зборнік вершаў паэта "Трывога лёсу".***

***Дасылаючы заўзятаму руплівцу віцебскай літаратурнай нівы шчырыя віншаванні і найлепшыя пажаданні з нагоды юбілею, газета "Культура" прапануе сваім чытачам нізку новых вершаў паэта.***

**Алег САЛТУК**

### МАТЫЎ

*Напяю матыў вясёлы,*
*Адкаснуся ад тугі,*
*І пайду, нібыта ў школу,*
*Ў пералескі і лугі.*

*Пералесачак-лясочак!*
*Бачу кожную сасну,*
*Што гібее ад падсочак,*
*Хоць кладзі яе ў труну.*

*Бачу кожную ялінку*
*І бярэзінку ля іх.*
*Сок сцякае, як слязінка,*
*Па ствалах такіх тугіх!*

*Эх, лужочак-муражочак!*
*Ды няма тут мурагу:*
*То пясочак, то пянёчак —*
*Чорт зламае сам нагу.*

*Ані кветкі не страчаю.*
*І ўжо, пэўна, не збяру,*
*Як даўней, сабе для чаю*
*Маладога чабару.*

*Вось такі матыў вясёлы,*
*У якім — адна туга.*
*І наўкола гола-гола.*
*І смуга, смуга, смуга.*

### САФІЙСКІ АРГАН

*Калі ў Сафійцы ажыве арган*
*І ўсё яму наўкола адзавецца,*
*Ўва мне раптоўна нешта*
*здрыганецца*
*І стане млосна сэрцу і нагам.*
*Калі ў Сафійцы загучыць арган,*
*З грудзей уздых за ім услед*
*ірвецца*
*І чайкай спалатнелаю нясецца*
*Туды, дзе над Дзвіной вісіць*
*туман...*
*Каму, скажы, ты молішся, арган?*

### АДЗІНОТА

*У сівых туманах даўно*
*Зачараваныя прысады.*
*Упушчу веташок у акно,*
*Перад ім за сталом прысяду.*

*Будзе неба ў зорах гарэць,*
*Ветрык стукацца ў аканіцу,*
*І нябачна ці бачна ледзь*
*Медны клён у святле іскрыцца.*

*Адгараць веташок і клён,*
*Адпалаюць сады і прысады.*
*Так ужо павялося здавён,*
*Рады ты таму ці не рады.*

*За акном — толькі сем двароў,*
*За дварамі — адзін асіннік.*
*Цішыня.*
*Веташка серабро.*
*Цеплыня,*
*Ажно сэрца стыне.*

### НАСТРОЙ

*Павуцінкай сноп аперазаны,*
*Па іржышчы дыбае бацян.*
*Дзеркачы пабеглі ў партызаны*
*За чужое мора-акіян.*

*Як свабодна, як усё тут міла,*
*Ды нічога не купіць за так...*
*Дзе мяне нячыстая насіла,*
*Каб цяпер паплакацца ў кулак.*

*Па гадах вясёлай маладосці,*
*Па матулі, што не тут ляжыць.*
*А мае дзе закапаюць косці,*
*Калі доўга загадаю жыць?*

*Ёсць на свеце вёсачка Лабейкі —*
*Ад Рыжэнек — крыл адзін узмах...*
*Скача сэрца, нібы верабейка,*
*Птах мой родны, шэранькі*
*мой птах.*



# У ВЯНОК ЖУРБОТНЫХ САНЕТАЎ "БУКІНІСТЫЧНАЙ КНІЗЕ"

Сустрэчы з даўнінай даволі рэдкія ў наш час. Для іх патрэбны асаблівы настрой, незвычайныя абставіны: каб адчуць узвышанасць ад судакранання з Вечнасцю, удыхнуць водар вякоў, праз якія яна прайшла.

Пачуццё эпохі падчас такіх сустрэч крыху згладжваецца, і звычайны адлік гадоў ад пэўнага моманту, звязанага з нейкай гістарычнай падзеяй, рэальнай альбо міфічнай, не падаецца ўжо абавязкова неабходным. Важна тое, якую інфармацыю захоўваюць у сабе прадметы даўніны: пра час і пра Чалавека. Не менш важна, каб месцы, дзе можна пазнаёміцца з даўнінай, былі непадалёку. Ды і проста — каб яны былі!

Існуюць легенды аб тым, як знаходзяць старадаўнюю кнігу сапраўдныя яе знаўцы. Як вышукваюць яе пад дахамі старых, напалову разбураных дамоў, выпрошваюць у бабулек мінулага веку, прыкмячаюць на паліцах прыватных, дзесяцігоддзямі збіраных бібліятэк.

Такія шукальнікі маюць шырокае кола знаёмстваў, багатую кліентуру сярод аматараў рарытэтаў, якім і прапаноўваюць нешта экзатычнае.

Аднак высокаадукаваным, інтэлігентным суграмадзянам, руплівцам нацыянальнай культуры, даследчыкам яе гісторыі прасцей і больш лагічна было б звяртацца ў букіністычныя кнігарні з высокім узроўнем абслугоўвання і прыстойнымі ўмовамі для захавання кніг. Некалі ў нас існавала шэсць нацыянальных букіністычных магазінаў. І на нейкім адрэзку часу Беларусь як дзяржава паказала сваю унікальнасць у арганізацыі продажу букіністычнай літаратуры.

Каб зацікавіць усіх, хто здае асабліва рэдкія асобнікі, цэны на іх свядома завышаліся амаль на 20 працэнтаў. І людзі пачалі прыносіць унікальныя друкаваныя творы.

Вывучаць вопыт работы беларускіх букіністычных кнігарань прыязджалі прадстаўнікі з усіх рэспублік былога Саюза. А ў пачатку 90-х, калі распрацоўвалася новае палажэнне аб букіністычнай кнізе, нашы спецыялісты актыўна працавалі ў створанай для гэтага аб'яднанай камісіі. Да іхняга голасу прыслухоўваліся.

Пажаданні тых, хто хацеў набыць рэдкую кнігу, старанна фіксаваліся ў дзяржаўных магазінах гандлярамі, яны ж давалі неабходную кансультацыю. Супрацоўнікі магазінаў, як правіла, былі выпускнікамі 32-га паліграфічнага вучылішча альбо філолагамі.

Цяпер гонар айчынных букіністаў абараняюць супрацоўнікі кнігарні "Вянок", што ў Траецкім прадмесці Мінска, ды "Букініст" на праспекце Скарыны. З шасці гандлёвых кропак свой профіль не змянілі толькі дзве. Захоўваючы старонкі, пакрытыя пылам стагоддзяў, букіністычныя кнігарні сталіся безабароннымі перад віхурай сучаснага рынку.

Душыць непамерна вялікая плата за арандуемыя памяшканні, часам не хапае наяўных грошай, каб разлічыцца з тымі, хто здае рэдкія асобнікі, каб дазваніцца да кліентаў ды ў час папярэдзіць, што паступіла, урэшце, доўгачаканая кніга.

А каштоўнасці, сапраўды, у нас ёсць. Праз букіністычныя магазіны рэалізаваны апошнім часам зборы твораў Якуба Коласа (1952 і 1972 — 1978 гадоў выдання), "Собрание сочинений" Адама Міцкевіча — 1948 года выдання, творы Максіма Багдановіча (1951 г.), кнігі канца мінулага стагоддзя, якія змяшчаюць звесткі пра быт і пабудову дзяржавы: "Каталогъ предметовъ, доставленныхъ на археологическую выставку при IX археологическомъ съезде в Вильне в 1893 году" (Вільна, 1893г.), "Метрики Великого Княжества Литовского, содержащие в себе дипломатические сношения Литвы в государствование короля Стефания Баторина" (1843г.) і іншыя.

Як сцвярджаюць у дзяржаўным аб'яднанні "Букініст", у агульным тавараабароце іхніх магазінаў — 40 працэнтаў літаратуры беларускай, ад 5 да 10 працэнтаў літаратуры, прывезенай для нашых букіністаў з Літвы, Украіны, Польшчы. На польскай мове ў Беларусі рэалізуецца прыкладна 8 працэнтаў, на нямецкай — 3 працэнты букіністычнай літаратуры.

У супрацоўнікаў такіх гандлёвых крам дакладна ўстаноўлена градацыя выстаўляемых на продаж кніг:

ёсць кніга антыкварная — выдадзеная да 1850 года, як правіла, яна друкавалася на ручных станках;

кніга старая, выдадзеная з 1851 па 1945 гады, лічылася таварам машыннай вытворчасці;

і, урэшце, — патрыманая кніга, год выдання якой пазначаецца перыядам пасляваенным. Гэта ўжо тавар дасканалай высокамеханізаванай паліграфічнай прамысловасці.

Для большай сістэматызацыі ў дзяржавах складаюцца букіністычныя каталогі-прэйскуранты. Кніг на беларускай мове ў такім каталозе-прэйскуранце — 444.



Праз букіністычныя магазіны камплектуюць свае кнігазборы Нацыянальны музей і Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Белдзяржуніверсітэт і універсітэт культуры, Беларуская Праваслаўная Епархія і Акадэмія навук Беларусі.

Што і казаць: ёсць патрэба ў рэдкай кнізе, якая адлюстроўвае час і краіну ў гэтым часе.

Але з-за розных складанасцей матэрыяльнага характару букіністычныя кнігі ўсё часцей трапляюць у рукі сучасных камерсантаў: тых, хто можа выкласці наяўнымі адразу некалькі мільёнаў. Па нашу кнігу прызвычаіліся прыязджаць прадпрымальнікі з-за мяжы.

Так пакрысе распрадаецца наш нацыянальны скарб.

Так пачынае знікаць адна з рэдкасных сфер кніжнага гандлю.

Пакуль яшчэ яна захоўвае ў сабе памяць аб добрым вопыце беларусаў. Аднак без дзяржаўнай падтрымкі яна ў хуткім часе можа стацца ўсяго толькі вяхой у гісторыі. Таксама, як сталі прадметамі даўніны старонкі патрыманых кніг, што пакуль яшчэ могуць прадавацца ў двух — на ўсю Беларусь — букіністычных магазінах.

**Ірына ТУЛУПАВА**

# ХТО ЯНА, КАПРЫЗНАЯ ДАМА?

Сапраўдныя раманы, дзе псіхалагічна глыбока раскрыты чалавечыя характары, уважліва прааналізаваны аўтарам падзеі, з'яўляюцца не часта, бо для гэтага папросту патрабуецца талент, а не толькі звычайнае жаданне пісаць. Яшчэ больш рэдкімі з'яўляюцца раманы-трылогіі. А калі гэта не проста раман-трылогія, а шматпланавы твор, што распавядае пра штодзённую працу супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі, дык можна смела сказаць: тут ужо своеасаблівае выключэнне з правілаў. Ва ўсялякім выпадку ў беларускай літаратуры падобных раманаў не было.

Але да нядаўняга часу. На паліцах кнігарняў і шапікаў з'явіўся раман-трылогія Сяргея Трахімёнка "Гульні капрызнай дамы", які літаральна адразу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю.

Ды і не магло быць інакш. "Гульні капрызнай дамы" С.Трахімёнка — адзін з тых твораў, дзе шчыльна знітаваны захапляючы сюжэт, вострыя канфлікты, экстрэмальныя сітуацыі, калі чалавек часцяком знаходзіцца на мяжы магчымага, але ўсё ж такі знаходзіць годнае выйсце. Гэта з аднаго боку, а з іншага — добрае засваенне С.Трахімёнкам законаў дэтэктыўнага жанру, якое праяўляецца, аднак, не толькі ва ўмелай пабудове дакладнай сюжэтнай асновы твора, але і ў паглыбленым псіхалагізме.

"Гульні капрызнай дамы", як напісана ў выдавецкай анатацыі (адзначым, што яна пры ўсёй сваёй лаканічнасці дазваляе зразумець ў творы галоўнае), "тыповы псіхалагічны дэтэктыў, у аснове якога палягае інтрыга-канфлікт паміж тымі, хто ўчыняе злачынствы, і тымі, хто змагаецца са злачыннасцю. Разам з тым раман — штосьці большае за дэтэктыў. Ён — адбітак з нашага быцця з ягонымі калізіямі і супярэчнасцямі, якія самі па сабе — вынік іншага, большага канфлікту, народжанага чарговым "пераломным момантам".

Кожную з частак трылогіі, кожны з раманаў, што складаюць разам адно цэлае, С.Трахімёнак называе аповедам — першым, другім, трэцім. І ў кожнага аповеду свая назва — "Заложнікі", "Дванаццаты апостал", "Водар магнолій". Як і павінна быць у трылогіі, у ёй пастаянна прысутнічае персанаж, які пераходзіць з аднаго твора ў наступны. Гэта старшы ўпаўнаважаны гараддзялення КДБ капітан Фёдар Унучак.

Сваёй прафесіі (а гэта галоўнае), як сцвярджае аўтар, Унучак не саромеўся. Больш за тое, ён быў упэўнены, што попыт на яе "існуе з тае пары, як чалавецтва памятае сябе". Тым самым С.Трахімёнак па-свойму дыскутуе з тымі, хто сёння любіць праводзіць паралелі паміж былымі органамі бяспекі і сённяшнімі: "Рэфарматарам і ў голаў чамусьці не прыходзіць, што чалавек не здольны па ўласным жаданні ўвесці ці скасаваць якую-небудзь дзейнасць. Дзейнасць і служэнне ёй, гэта значыць, прафесіі, спараджаецца попытам".

Здавалася б, навошта тэарэтычныя развагі ў дэтэктыве? Але тут яны вельмі дарэчы. Бо Фёдар Унучак не проста прафесійна працуе, ён любіць сваю справу па-сапраўднаму. Але нездарма кажуць — любоў не вечная. Паступова Унучак прыходзіць да думкі, што і ў органах КДБ шмат што адбываецца зусім не так, як павінна быць. Але тут проста бразнуць дзвярыма і пайсці нельга. Не тая арганізацыя...

Вобраз "капрызнай дамы" не выпадкова вынесены аўтарам трылогіі як агульная назва. У цяжкую хвіліну Фёдар Унучак узгадвае гады сваёй вучобы, калі далучаўся да сваёй прафесіі, і словы аднаго з выкладчыкаў: "Вы падпісалі шлюбную дамову з вельмі капрызнай дамай, імя якой — Бяспека. Дама гэтая, як і ўсе дамы, не любіць, калі ёй здраджваюць. Яна можа дараваць дробныя грахі, уласцівыя ўсім мужчынам і мужчынам-операм у прыватнасці, але ніколі не даруе вам здраду,.. Вы павінны належаць толькі ёй".

Унучак усё ж наважваецца "здрадзіць" і адразу ж ператвараецца ў ізгоя... Дарэчы, менавіта такім чынам заканчваецца другі аповед "Дванаццаты апостал". У ім, мабыць, найбольш паглыблены псіхалагічны аналіз, уласцівы С.Трахімёнку. Назва першага аповеда "Заложнікі", відавочна, "расшыфроўкі" не патрабуе. Сітуацыя надзвычайная, але на сённяшні дзень, на жаль, тыповая.

І ўсё ж тым, хто любіць вострыя адчуванні, прызвычаіўся да нечаканых сітуацый, гатовы ледзь не сам на нейкі час стаць следчым, найбольш спадабаецца "трэці аповед". "Водар магнолій" — гэта, калі нервы чытача месцамі гранічна напружаныя. Гэта, калі перахоплівае дыханне ад таго, як галоўны герой (а ў ролі своеасаблівага прыватнага дэтэктыва выступае ўжо вышэйзгаданы Унучак), адыходзячы ад душэўнай траўмы, развітаўшыся з органамі КДБ, дазваляе сабе адпачыць на поўдні. Гэта менавіта псіхалагічны дэтэктыў...

Я далёкі ад меркавання, што ў трылогіі С.Трахімёнка ўсё дасканала. Іншы раз заўважны нібыта сюжэтны "збой" і з'яўляецца занадта шмат развагаў там, дзе герой павінен проста больш дзейнічаць. Але гэта не галоўнае, а галоўнае ў тым, што С.Трахімёнак знайшоў сябе ў дэтэктыўным жанры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ТВОРЧАЯ КУХНЯ

***Нервовая тканка люстэрка адбівае неспакойна пульсуючы свет, ствараючы і ўзбагачаючы яго...***

***Прачытайце ўсё наступнае — магчыма, вы адчуеце штосьці знаёмае: некалькі гадоў таму “Культура” ўжо распавядала пра гэтага чалавека. Не здзіўлюся, калі праз пару гадоў зноў з’явіцца публікацыя пра яго, дзе зноў пойдзе гаворка пра штосьці новае і незвычайнае. У мяне няма адчування, што тут — усё пра яго, ды гэта і немагчыма: Генадзь Паўлавіч Кагановіч — вулкан, які пастаянна дзейнічае. Хто ведае, што ў наступнае імгненне народзіцца ў глыбінях вогненнай лавы?***

# ШЛЯХ ІМПРАВІЗАТАРА

**— На Вашых канцэртах гучыць класіка, джаз, спевы, паэзія, Вы ўключаеце туды і акцёрскія нумары, і імправізацыйныя зносіны з публікай. Гэта так незвычайна.**

— Я ўвогуле імправізатар, я ўсё часта мяняю. На сваіх канцэртах я выкарыстоўваю блокі, спалучаючы розныя жанры. За дзве гадзіны да пачатку канцэрта я маю нейкія варыянты, з якіх штосьці буду іграць, а штосьці — выкраслю. Сутнасць не ў тым, каб выклікаць апладысменты, а ў тым, што я разглядаю сябе і як артыста, і як слухача адначасова. Цаню ўменне раздвойвацца і ўвогуле я лічу, што шызафрэнія — гэта нармальны стан творчага чалавека. Спалучаць захопленасць тым, што ты робіш, і поўны самакантроль, на маю думку, справа гонару.

**— Што можа Вас зацікавіць?**

— Зараз ёсць усё. Але для мяне цікавым з’яўляецца, безумоўна, штосьці арыгінальнае. І добра, калі гэта арыгінальнае мае глыбокі падтэкст. Я не супраць сцёбу, папсы, не супраць іроніі, пародыі, але мне цікава тое, што ў мастацтве называецца “амбівалентнасцю”. Мне хочацца, каб мая галава была загружанай.

**— Вы неяк казалі, што валодаеце сямю прафесіямі.**

— Магчыма, мая заява гучала некалькі ганарліва, але зараз прафесіі настолькі звузіліся, што сумежныя прафесіі лічацца самастойнымі. Ну, давайце палічым. Я выкладаю ў некалькіх навучальных установах, у тым ліку маю дзве дацэнцкія пасады. Педагог, які не ўмее іграць альбо піяніст, які не стварае музыку? Добра, значыць, піяніст — другая прафесія, я рэгулярна выступаю ў філармоніі, музычным ліцэі, універсітэце культуры, на тэлебачанні. Кампазітар — бо пісаў музыку да спектакляў, да фільма “Эгасапіенс”, п’есы для аркестра “Няміга”, песні.

А калі часта выступаю як спявак, у тым ліку, у Варшаве, на блюзавых фестывалях — спявак? А калі ў якасці метадыста выдаю кнігу за кнігай, дык музычны навуковец — прафесія? А калі я займаўся музычнай псіхалогіяй і стварыў цалкам новую сістэму працы над музычнымі здольнасцямі, аналагаў якой няма ў Еўропе? Гэта, безумоўна, не я вынайшаў, а эксперты з Міністэрства культуры.

**— Але псіхалогія мае для Вас ужытковае значэнне?**

— Псіхалогія — гэта для мяне сур’ёзна. Я — дацэнт кафедры псіхалогіі, у мяне ёсць некалькі распрацаваных курсаў, якія я выкладаю. Тры галіны, якія мяне цікавяць, — псіхалогія музычнай творчасці, псіхалогія эротыкі, псіхалогія станаў, звязаных з медытацыяй, аўтатрэнінгам, пашырэннем свядомасці і г.д.

**— А што было для Вас стымулам да педагагічнай працы?**

— Калі я вучыўся музыцы, дык ненавідзеў яе і паралельна займаўся матэматыкай, спортам. Адначасова паступіў у нашу кансерваторыю і ў “Гнесінку”. І нават, калі вучыўся ў “Гнесінцы”, я ўсё яшчэ не лічыў сябе музыкантам, а больш захапляўся філасофіяй. І мне так не падабалася сістэма навучання ў музыцы, што я вырашыў стварыць новую, прааналізаваўшы тое, што адбываецца са мною.

**— Але працягнем размову пра Вашыя прафесіі.**

— Пра тое, што я вылез на сцэну Рускага тэатра і з поспехам іграю ў спектаклі “Вечар габрэйскага анекдота”, маючы шмат прапаноў ад рэжысёраў на драматычныя ролі? Таксама прафесія. 25 — 30 гадоў я патрошку пішу вершы. Паэтам называць сябе боязна, але я лічу сябе чалавекам, які прафесійна працуе ў галіне літаратуры. Год таму выйшаў зборнік маіх вершаў. Гэта некалькі цыклаў імправізацыйных мініяцюр.

**— Ваш самы кароткі верш?**

— ... “Твары незнаёмцаў — снабачанні”. Яшчэ адна прафесія — журналістыка. Пару гадоў таму пачаў пісаць на тэмы эратычныя, літаратуразнаўчыя, некалькі разоў у мяне пыталіся і пра палітыку, хаця я гэтага не люблю.

**— З прафесіямі — усё?**

— Апошняя — масажыст з міжнародным сертыфікатам. Гэта дадаецца да майго захаплення Усходам — ёгай і рознымі адзінаборствамі. Але гэта ўжо — хобі. Калі гэта ўспрымаць як прафесію, дык вельмі натуральным падаецца з’яўленне Партыі аматараў піва.

**— У Вас запланавана некалькі тэарэтычных прац па імправізацыі.**

— Шэсць. Калі я пачаў першы твор “Асновы тэорыі імправізацыі”, дык аказалася, што па гэтай тэме нідзе ў свеце яшчэ нічога няма. Якія тыпы, віды імправізацыі — ніякіх фармулёвак. Я звярнуўся да эпохі “барока” і высветліў, што 350 гадоў таму гэтая тэма была добра распрацавана. У часы Баха ў Паўночнай Нямеччыне і Італіі было выдадзена 140 твораў па навучанні ігры і імправізацыі на клавесіне. А музыкантаў там было, мабыць, разоў у 10 меней, чым у Мінску.

**— І з чым, на Ваш погляд, гэта было знітавана?**

— Тады была вельмі нарматыўная эпоха, і ў музыцы ўсё было звязана з нумералогіяй, існавала эмблематыка і сімволіка.

**— Ці не перашкаджае ўсё гэта кампазітарскай і імправізацыйнай творчасці?**

— Бах у дзевяноста пяці працэнтах сваіх твораў выкарыстоўваў мелодыі, ужо выдадзеныя раней. Увогуле мелодыі кампазітары не стварылі, важна было штосьці з гэтага зрабіць. Мы ж, калі размаўляем альбо пішам вершы, выкарыстоўваем ужо існыя комплексы. Мінімальны шаблон не замінае творчаму пачатку ў аўтары, аўтар павінен быць арыгінальным у кантэксце.

**— Стылёвыя перапады ў Вашым жыцці — гэта нармальная з’ява? Распавядзіце яшчэ і пра гэта.**

— З таго дня як адкрылася амерыканская амбасада, першыя два гады я рэгулярна даваў там сольныя канцэрты. А з тае прычыны, што першы консул быў родам з Польшчы, дык яны мне замаўлялі толькі Шапэна. А паралельна я іграў блюзы з рок-музыкамі. Яшчэ ў маім жыцці быў перыяд, калі я вымушаны быў зарабляць на хлеб выкладаннем ігры на гітары ў школе, дзеля чаго за пяць месяцаў вывучыў пяць гітарных школ, бо да таго часу гітарай амаль не валодаў. Я магу сыграць “Мурку” і адразу — “Чакону” Баха, класіку і джаз.

**— У Вас адчуваецца такая прага да жыцця...**

— Так, я вельмі прагны да жыцця. Калі я пару гадзін нічога не раблю, дык пачуваюся хворым. Мне неабходна адчуваць інтэнсіўнасць жыцця, пастаянны эмацыянальны ўздым, пастаяннае пачуццё працы, я — працаголік.

**— Вы лічыце, што займацца адначасова столькімі рэчамі — натуральна альбо гэта Ваша індывідуальная патрэба?**

— Вы самі адказалі: гэта і натуральна, і патрэба. Гэта вельмі добра. Я б і іншым пажадаў жыць гэтаксама. Многім людзям нестае, магчыма, стартавай энергіі, інтэлігенцкага выхавання, выпрацаванай прагі да ведаў. У мяне, да прыкладу, не бывае ніводнага дня, каб я не прачытаў кнігу.

**— Ці не складана Вам, схільнаму да фармалізацыі і адначасова імправізатару, існаваць у цэнтры такіх нажніц — адначасова рабіць і ацэньваць?**

— Я заўжды кажу вучням: у самім працэсе, калі ты нешта робіш, ты павінен адчуваць сябе Госпадам Богам, а калі працэс скончаны, можна сказаць: які жах тое, што я стварыў, што ж з гэтага атрымаецца? Гэта значыць, працэсы творчасці і аналізу не павінны адбывацца сінхронна. Мяне хвалюе: ці не горш тое, што я раблю сёння, за тое, што я рабіў летась?

**— Якой Вы бачыце сваю ідэальную аўдыторыю?**

— Пра аўдыторыю ніколі не думаў. Ідэальная, напэўна, —гэта я і такія, як я — якія ўспыхваюць і пераключаюцца. Але, зазвычай, так і атрымоўваецца. На маіх канцэртах і лекцыях публіка заўжды жывая.

**— Калі б у Вас была магчымасць выбіраць: перад кім выступаць, каго вучыць, з кім гутарыць?**

— Я не магу выбіраць. Мне патрэбна ўсё. Мне цікава з дзецьмі, з дарослымі, са студэнтамі.

**— Вас любяць вучні.**

— Нядаўна ў школе я праводзіў вечарыну для класа імправізацыі. Адным з заданняў была імправізацыя на тэму “Г.П.Кагановіч”. І я шмат цікавага даведаўся пра сябе з твораў маіх вучняў: што я шмат размаўляю пра сябе, што мяне наогул зашмат, што я запальчывы, узнёслы, што я пастаянна іграю і спяваю, бегаю па класе. Я гэта ўспрымаю нармальна. Напэўна, я стаў банальным педагогам, які паказвае, як яго любяць вучні. Нават захоўваю іхнія паштоўкі.

**— Ці часта Вы пачуваецеся вольным?**

— Воля — гэта пастаяннае адчуванне. Для мяне жыццё — гэта і ёсць воля.

**— Складваецца ўражанне, што Вы — самотная творчая асоба, без паплечнікаў і аднадумцаў?**

— Я ад гэтага вельмі пакутую. На свядомым узроўні я пастаянна ўсіх вярбую, цягну за сабою. Але... У кожнай галіне творчасці ў мяне розныя партнёры, а універсала, які б задаволіў мяне ва ўсіх галінах, я не сустракаў. Пачуццё самоты — страшная рэч, але яно ёсць ва ўсіх.

**— Мабыць, пра вольны час з Вамі няма сэнсу гаварыць?**

— У мяне няма вольнага часу. Калі я адзін раз на год ад’язджаю куды-небудзь на пару тыдняў, дык будую план на ўвесь наступны год, абавязкова чытаю па кнізе на дзень, запісваю якія-небудзь ідэі або займаюся дыхальнай гімнастыкай, на якую звычайна нестае часу.

**— А Вашыя слабасці?**

— Усёеднасць. Я не ўмею адмаўляць. Мяне паглынулі вучні, студэнты, методыкі, і няма часу сесці і прадумаць новы спектакль і г.д. Нават з жанчынамі так. Для мяне ідэальная сістэма адносінаў — гарэм.

**Гутарыла Ганна АЛАДАВА**
**Фота Г.ЛАХТАНАВА**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп’ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб’ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 883
Друкарня выдавецтва “Беларускі Дом друку”.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.